


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14
Цана: Нямеччына: на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; ЗША і Канада: на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. Ангельшчына й Аўстралія: 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. Бэльгія: 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. Францыя: 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. Аргентына: 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„ |
|---|---|---|

№ 31 (467) — Нядзеля, 9 жнівеня 1959 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 13

# Нацыянальная праблема ў СССР уступае ў „новую фазу“

Абяцаны XXI-ым зьездам КПСС пераход СССР ад сацыялізму да «разгорнутага будаўніцтва камунізму» выклікаў, як можна было й спадзявацца, шырокую дыскусію аб нацыянальным пытаньні ў СССР. Шмат месца гэтым праблемам адведзена ў спэцыяльным зборніку Акадэміі навук СССР, які зьявіўся ў 1959 годзе пад назовам «Пытаньні пабудовы камунізму ў СССР». Фактычна, гэта матарыял навуковай сэсіі Аддзелу грамадзкіх навукаў Акадэміі навук СССР, якая займалася пытаньнямі эканамічнага, філязофскага, гістарычнага, юрыдычнага і нацыянальнага характару, зьвязанымі з паступовым пераходам СССР у «эру камунізму».

Апрача таго, да вартых ўвагі артыкулаў, якія апошнім часам зьявіліся ў савецкай прэсе на тэму нацыянальных праблемаў у пэрыяд будаўніцтва камунізму ў СССР, трэба яшчэ аднесьці артыкул Цамерана ,Разьвіцьцё нацыянальных дачыненьняў у пэрыяд разгорнутага будаўніцтва камунізму» («Вопросы філософіі» № 7 — 1959), таксама як і артыкул сакратара ЦК КП Украіны ў культурных справах С. Чэрваненко «Цесная сувязь з жыцьцём — гарантыя посьпеху ідэялягічнай працы» («Коммуніст», № 10 — ліпень 1959). У ім гаворыцца аб цяжкасьцях ідэялягічнай працы на Украіне, зьвязаных з пераходам у эру камунізму, абумоўленымі «нацыяналістычнымі перажаткамі» і аб практычным перапрыемствах, якія партыйная арганізацыя Украіны будзе ўжываць для забясьпячэньня шляхоў у эру камунізму.

Азнаямленьне з вышэй пералічанымі матар'яламі прыводзіць да высьнаву, што бальшавікі занепакоеныя тымі супярэчнасьцямі, якія паўстаюць паміж тэарэтычнымі палажэньнямі аб адміраньні нацыяў у эру камунізму й рэальным станам рэчаў, зь якога ясна відаць, што падсавецкія нацыі ня зьбіраюцца «адміраць», а, наадварот, у пасьлясталінскім пэрыядзе і ў прыватнасьці пачынаючы ад 1956 году зьяўляюцца яўныя прызнакі нацыянальнага адраджэньня.

Аб гэтым сьветчаць у першую чаргу пададзеныя ў артыкулах матар'ялы аб цяжкасьцях, зь якімі сустракаецца савецкі рэжым у асобных нацыянальных рэспубліках. Гэтыя цякжасьці зьвязаныя ня толькі з пазыцыяй і незадаваленьнем «нацыяналістычна» настроеных элемэнтаў, але і з апазыцыяй сяброў партыі й асабліва кіруючай верхавіны розных рэспублікаў. Так, прыкладам, таджыцкі «хрушчоў» Бободжан Гафураў у сваім артыкуле-дакладзе «Будаўніцтва камунізму й нацыянальнае пытаньне», зьмешчаным у прыгаданым намі зборніку Акадэміі навук СССР, гаворыць аб тым, што расшырэньне правоў саюзных рэспублікаў «некаторыя таварышы... неправідлова вытлумачылі». У выніку гэтага «у некаторых месцах зьявілася тэндэнцыя супрацьстаўленьня кадраў карэннай нацыянальнасьці кадрам іншых нацыянальнасьцяў».

Яшчэ выразьней аб апазыцыі сярод партыйнай верхавіны ў некаторых саюзных рэспубліках гаворыцца ў артыкуле «Нацыянальныя дачыненьні у пэрыяд будаўніцтва камунізму», зьмешчаным у № 7 «Вопросы філософіі». Закранаючы жывучасьць «нацыянальных перажыткаў» у артыкуле гаворыцца, што яны ўмацаваліся ў першую чаргу ў Буркмэнскай ССР, што змусіла рэжым правесьці там чыстку. У артыкуле гаворыцца:

«Формы праяваў гэтых перажыткаў разнаякія. У гаспадарчай галіне яны выяўляюцца ў месніцкіх тэндэнцыях... У справе падбору й разьмяшчэньня кадраў яны выяўляюцца ў супрацьстаўленьні кадраў аднэй нацыянальнасьці другой. Такія факты мелі, напрыклад, месца ў Туркменскай ССР, дзе былыя сакратары ЦК КП тт. Бабаеў і Дурдыева груба ігнаравалі бальшавіцкі прынцып падбору й высоўваньня кадраў... Партыйная арганізацыя войстра асудзіла гэтыя й іншыя парушэньні ленінскіх прынцыпаў.»

Як ведама, чыстка «нацыяналістычных элемэнтаў» сярод партыйных кадраў, якія ў вапошнія гады імкнуліся зламаць ня так ленінскія, як хутчэй сталінскія прынцыпы нацыянальнай палітыкі цэнтру, была праведзеная ня толькі ў Туркмэніі, але і ў Узбэкістане і Азэрбайджане. Гэтыя чысткі былі перасьцярогай для партыйных кадраў у іншых саюзных рэспубліках. Яны былі заклікам да парадку й партыйнай дысцыпліны ды радыкальным сяродкам, каб зламаць адражэньне ерэтычных тэндэнцыяў на фоне нацыянальнай палітыкі партыі.

Усе гэтыя »гэрэтычныя» тэндэнцыі ў паасобных рэспубліканскіх партыях ня ўзьніклі «дэўс экс махіна». Яны былі й ёсьць адлюстраваньнем тых агульных настрояў, якія ўзьніклі ў саюзных рэспубліках сярод шырокіх масаў насельніцтва, асабліва сярод інтэлігенцыі. Аб іх адкрыта гаворыцца ў прыгаданых намі артыкулах. Асабліва падрабязна пералічае іх у сваім артыкуле Гафураў. Яны, на ягоную думку, выяўляюцца як у эканамічным, гэтак і ў ідэялягічным сэктары.

«Аднэй з праяваў нацыянальнай абмежаванасьці ў паасобных раёнах нацыянальных рэспублікаў зьўляюцца месьніцкія тэндэнцыі, якія выражаюцца ў нявыкананьні плянаў каапэраваных паставак, у спробах паасобных работнікаў вырваць больш для сваёй рэспублікі за кошт іншых рэспублікаў...

Часамі месьніцтва суправаджаецца надуманым перабольшваньнем нацыянальных асаблівасьцяў тэй ці іншай рэспублікі і адсюль высоўваньнем празьмерных утрымальніцкіх дамаганьняў аб спэцыяльных палёгках і большых укладах з усесаюзнага бюджэту ў рэспубліканскую гаспадарку».

(Заканчэньне на 2-й бач.)

# Іван Луцкевіч

**(На сараковыя ўгодкі з дня сьмерці)**

Сёлета прыпадаюць 40-я ўгодкі сьмерці аднаго з найбольш выдатных дзеячоў беларускага нацыянальнага адраджэньня — Івана Луцкевіча, імя якога сяньняшнія валадары Беларусі намагаюцца выкінуць з народнае памяці.

У 1920 годзе Янка Купала на ўрачыстасьці 15-годзьдзя свае дзейнасьці гэтак казаў пра пачаткі беларускага культурнага й дзяржаўнага адраджэньня:

«15 гадоў таму назад некалькі шалёных галоваў захацелі мур прабіць, адбудаваць сваю закаваную ў многавяковыя кайданы бацькаўшчыну, а сягоньня без малога ўвесь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызваленьня».

Сярод гэных «некалькіх шалёных галоваў», адным зь першых, быў Іван Луцкевіч. Пражыў ён усяго 38 гадоў, але за сваё кароткае жыцьцё зрабіў нязвычайна шмат для беларускага вызвольнага руху.

Іван Луцкевіч разам із сваім братам Антонам — заснавальнікі эпохатворчае беларускае газэты «Наша Ніва». Іван Луцкевіч — арганізатар беларускага школьніцтва ў часы першае сусьветнае вайны, стваральнік багатага віленскага гістарычнага музэю, што пазьней насіў ягонае імя; ён-жа — першы кіраўнік віленскага Беларускага Камітэту Помачы пацярпеўшым ад вайны, што адыграў вялікую ролю ў гэныя часы буджэньня Беларусі да дзяржаўнага жыцьця. Між іншага, аднэй з заслугаў Беларускага Камітэту ў Вільні, і асабістай заслугай Івана Луцкевіча, было здабыцьцё на пачатку 1916 году ад нямецкіх акупацыйных уладаў прызнаньня раўнапраўя беларускай мове разам зь іншымі мовамі. Каштавала гэта Івану Луцкевічу вялікіх высілкаў, але яны шчодра аплаціліся ў галіне беларускага школьніцтва. Беларускі Камітэт адразу-ж скарыстаў із здабытага для беларускае мовы права, дамагаючыся пашырэньня беларускага школьніцтва на ўвесь беларускі абшар. У канцы 1916 году ў Сьвіслачы засноўваецца першая беларуская настаўніцкая сэмінарыя, што дала Беларусі сьвежыя кадры нацыянальна сьведамае інтэлігенцыі. Гэтак, пад канец 1918 году беларускіх школаў можна было ўжо налічыць некалькі сотняў.

Дзейнасьць Івана Луцкевіча была плённая й усебаковая. У 1916 г. віленскі Беларускі Камітэт дамагаецца ад нямецкае акупацыйнае ўлады дазволу на выдаваньне газэты «Гоман». Газэта выходзіла рэгулярна два разы на тыдзень бадай да канца 1918 году. Ейным рэдактарам быў Антон Луцкевіч, а Іван тымчасам дзеіў навонкі. Улетку 1916 году ён выяжджае ў Швайцарыю, у Лёзану, на III-ю канфэрэнцыю паняволеных народаў. У пададзеным канфэрэнцыі мэмарыяле ён наважана бароніць правы беларускага народу на дзяржаўную незалежнасьць Бескампрамісовая беларуская лінія, якую праводзіў Іван Луцкевіч на III-й міжнароднай канфэрэнцыі ў Лёзане не спадобалася нямецкім уладам на Беларусі, і яны прыстаўляюць да газэты «Гоман» свайго цэнзара. Гэта, аднак, ня сталася перашкодай, каб газэта «Гоман» і надалей цьвёрда бараніла беларускія нацыянальныя інтарэсы. Пасьля павароту із Швайцарыі Іван Луцкевіч закладае ў Вільні Беларускі Клюб для далейшае кансалідацыі беларускіх палітычных сілаў.

Калі ў 1917 годзе выбухла Лютаўская рэвалюцыя, зь ініцыятывы Івана Луцкевіча паўстаюць новыя арганізацыі — цяпер ужо ня толькі ў Віленшчыне, але і ў Горадзеншчыне: каапэратывы, Беларускі Вучыцельскі Саюз, Цэнтральны саюз беларускіх нацыянальных грамадзкіх арганізацыяў. Увесь 1917 год Іван Луцкевіч езьдзіць па Беларусі зьбірае нарады, заклікае, арганізуе. Калі ў 1917 годзе, у Менску бальшавікі збройна разганяюцьганяюць Усебеларускі кангрэс, у Вільні склікаецца на 25 студзеня 1918 году Беларуская канфэрэнцыя, душой якое былі браты Іван і Антон Луцкевічы. На Беларускай канфэрэнцыі ў Вільні творыцца Беларуская Рада. Ад імя віленскае Беларускае Рады ў Менск, дзе адбываецца завяршэньне адбудовы Беларускае Народнае Рэспублікі, высылаецца дэлегацыя. Дэлегацыя ад Віленшчыны значна ўзмоцніла незалежніцкія сілы ў Менску й мела паважны ўплыў незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году. У складзе дэлегацыі быў таксама й Іван Луцкевіч.

Падарожжа ў Менск у разьбітых халодных вагонах было асабліва цяжкім для Івана Луцкевіча. Цяжкія ўмовы, недасыпаньне й перамучаньне ад надмернага высілку, якога вымагала беларуская нацыянальная справа, усё гэта адмоўна адбівалася на здароўі Івана Луцкевіча й выклікала хваробу сухотаў. Вярнуўшыся зь Менску назад у Вільню з радаснай весткай пра незалежнасьць свайго роднага краю, Іван Луцкевіч далей намагаецца займацца палітычна-арганізацыйнай і культурнай дзейнасьцяй, аднак хвароба зусім падкашвае ягоныя сілы. 20 жнівеня 1919 году ён адыходзіць на вечны супакой, пакідаючы па сабе багатыя плады на нацыянальнай ніве, што жывяць далей беларускі вызвольны рух.

**Юстыч**

# Падсавецкія нацыі ня зьбіраюцца паміраць

Апошнім часам савецкі парапагандовы апарат мабілізуецца на змаганьне з праявамі гэтак званага нацыяналізму ў паасобных нерасейскіх рэспубліках СССР. Гэта сьветчыць аб тым, што практычнае вырашэньне нацыянальнай праблемы ў СССР выявілася куды больш складаным, чымся гэта прадбачвала бальшавіцкая камуністычная тэорыя.

Разьвіцьцё нацыянальных узаемадачыненьняў ў Савецкім Саюзе зьяўляецца адным з найбольш пераканаўчых доказаў непераможных супярэчнасьцяў паміж бальшавіцкай тэорыяй і практыкай, з аднаго боку, і прыроднымі вымогамі людзкога жыцьця — з другога. Гэтая праўда пацьвярджаецца цяпер самым жыцьцём. Гэтак, напрыклад, бальшавікі ўсімі сяродкамі намагаюцца рэалізаваць цьверджаньні камуністычнай тэорыі аб тым, што ў эпоху камунізму нацыі павінны зьнікнуць. Хрушчоў, сьцьвердзіўшы нядаўна, што «сацыялізм у СССР перамог поўнасьцяй і канчаткова», абвесьціў, як ведама, гэтак званы «разгорнуты пераход да камунізму». Здавалася-б, што ў гэтую эпоху «шпаркага» пераходу да безнацыянальнага камуністычнага грамадзтва павінны былі-б гэтак-жа шпарка адміраць і нацыянальныя пачуцьці падсавецкіх народаў. Практыка-ж паказвае, што падсавецкія нацыі ня толькі ня зьбіраюцца «адміраць», але, наадварот, апошнім часам паказваюць выразную тэндэнцыю да нацыянальнага адраджэньня і вызваленьня. Гэтыя зьявішчы, якія выкрываюць ненатуральнасьць і няжыцьцёвасьць камуністычных тэорыяў у нацыянальным пытаньні, моцна трывожаць бальшавіцкіх дагматыкаў. Аднак яны намагаюцца ўсяляк прыхаваць запраўдныя прычыны й памеры нацыянальных зрухаў у СССР, паказваючы іх як вынік гэтак званых «перажыткаў капіталізму» і ўплываў замежнай прапаганды.

Але ці можна вытлумачыць толькі «перажыткамі» і ўплывамі замежнай прапаганды тое, што, пасьля неаднаразовых чыстак, заражанымі гэтак званым «нацыяналізмам» выявіліся ізноў цэлыя партыйныя й дзяржаўныя апараты шмат-якіх савецкіх рэспублік? Чым тлумачыцца тое, што, напрыклад, у БССР, як яшчэ раз пацьвердзіў сакратар ЦК КП Беларусі Гарбуноў на нядаўным XV-ым пленуме ЦК КПБ, «у сьведамасьці паасобных грамадзян ўсё яшчэ захоўваюцца элемэнты буржуазнага нацыяналізму»? І чаму «пастанова» гэтага пленуму яшчэ раз забавязвае партыйны й прапагандовы апарат змагацца «у першую чаргу» супраць «праяваў нацыяналізму».

Партыйныя дыялектычныя тлумачэньні аб «перажытках» і замежнай прапагандзе нічога не растлумачваюць. Прычынаў жывучасьці нацыянальных ідэяў у падсавецкіх народаў і іхнага імкненьня да большай нацыянальнай свабоды й незалежнасьці трэба шукаць глыбей.

Баронячы свае нацыянальныя правы, падсавецкія народы ня выяўляюць нічога нязвычайнага. Кожны народ і ўва ўсе гістарычныя часы панаваў, разьвіваў і абараняў свае, накопленыя гісторыяй, дасягненьні — мову, нацыянальныя культурныя традыцыі, свой уласны спосаб жыцьця й іншыя духовыя й матарыяльныя вартасьці. Цяга й прывязанасьць да ўсяго роднага сталася прыроднай рысай чалавека кажнай нацыі, а права жыць сваім уласным жыцьцём — прызнанае й Богам, і цывілізацыяй.

Можна сабе ўявіць, як манатонна, ненатуральна й нязносна нудна выглядаўбы сьвет, калі-б яго пазбавіць тэй прыгажосьці, якую дае яму адначаснае свабоднае існаваньне й расквітаньне культураў розных расаў і народаў. Бальшавіцкая-ж сыстэма абяцае падсавецкім народам раптоўна й брутальна зьнішчыць усе іхныя нацыянальныя асаблівасьці й гэтыя свае абяцаньні гэтак-жа брутальна намагаецца ажыцьцявіць. Яна намагаецца стварыць на тэрыторыі ўсёй бальшавіцкай імпэрыі новага гэтак званага «савецкага чалавека» на базе расейскай культуры, у бальшыні выпадкаў далёкай і чужой іншым падсавецкім народам. Вось у гэтай бальшавіцкай палітыцы затоеныя запраўдныя прычыны таго зусім натуральнага й апраўданага нацыянальнага супраціву нерасейскіх падсавецкіх народаў, зь якім бальшавікі ніяк ня могуць справіцца.

І ня справяцца! Наадварот. Паколькі гэты супраціў грунтуецца не на выдуманых утапічных тэорыях, а на прыродных уласьцівасьцях людзей — можна быць упэўненым, што ён у канчальным выніку пераможа.

**А. Залескі**

# КАМУНІКАТ

**КАНФЭРЭНЦЫІ ЛІГІ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ НАРОДАЎ СССР**

29—30-га ліпеня 1959 году ў Мюнхэне адбылася канфэрэнцыя нацыянальных цэнтраў, што ўваходзяць у Лігу Вызваленьня Народаў СССР — Парыскі Блёк. На канфэрэнцыю прыбыло каля 50 дэлегатаў з Францыі, Турцыі, Блізкага Ўсходу, ЗША й Заходняй Нямеччыны, якія рэпрэзэнтавалі наступныя краіны: Армэнію, Азэрбайджан, Беларусь, Грузію, Ідэль-Урал, Казакію, Паўночны Каўказ, Туркестан, Украіну.

На канфэрэнцыі былі абмеркаваныя пытаньні сучаснае сьветавое палітыкі ў сувязі з палітычнай сытуацыяй у паняволеных краінах СССР, пляны будучай дзейнасьці Лігі, заслуханы даклад Прэзыдыюму Лігі аб яго працы, і ў усебаковай дыскусіі былі абмеркаваныя чарговыя заданьні вызвольнага змаганьня, праводжанага Лігай і нацыянальнымі цэнтрамі, якія належаць да гэтае арганізацыі, а таксама быў выбраны Камітэт і яго Прэзыдыюм, на чале із старшынём Рады Беларускай Народнай Рэспублікі інж. Міколам Абрамчыкам.

Асаблівая ўвага была прысьвечана рэзалюцыі Кангрэсу ЗША й праклямацыі прэзыдэнта Двайта Айзэнгаўэра аб абвесьчаньні «Тыдня паняволеных народаў».

Канфэрэнцыя прыняла дэклярацыю, у якой гаворыцца аб дачыненьнях Лігі да актуальных праблемаў бягучых палітычных падзеяў ды вызначаныя заданьні, якія будзе праводзіць Ліга й належачыя да яе арганізацыі ў сваёй працы.

**Прэзыдыюм Лігі**

# Савецкая выстаўка ў Нью Ёрку

Савецкая выстаўка ў Нью Ёрку адчынілася 29 чырвеня ў вялікім будынку «Калізэй», адмыслова прыстасаваным для выставак. 10 жнівеня выстаўка зачыніцца. Спаміж 10 тысяч экспанатаў найцікавейшыя, бадай, — гэта жывыя савецкія грамадзяне, упяршыню даступныя для «публічнага ўжытку». «Экспанаты», праўда, ня зусім аўтэнтычныя. Арганізатары выстаўкі пастанавілі, што будзе менш клапатліва, калі яны апрануць праваднікоў выстаўкі ў... амэрыканскія касьцюмы й абутак. Газэта «Советская Белоруссия» жалілася нядаўна на «пражорлівасьць» савецкіх чаравікаў: ня ўсьпееш, кажа, панасіць як сьлед, як яны ўжо «есьці просяць». Мудрае кіраўніцтва адпаведна ўлічыла гэты мамэнт: правадніком выдалі чаравікі, што ўмеюць «трымаць язык за зубамі» і не распаўсюджвацца надта пра якасьць савецкае прадукцыі.

Выстаўка мае адлюстроўваць савецкую навуку, тэхніку й культуру. Да пэўнае ступені яна гэта й робіць. Найменш, аднак, адлюстравана тут жыцьцё звычайнага падсавецкага грамадзяніна. І гэта Амэрыканцы выразна вычуваюць. Макеты штучных спадарожнікаў ці, ня пушчанага яшчэ ў ход, атамнага ледаколу або мінятурныя гідраэлектрастанцыі цікавыя больш за ўсё для дзяцей, якія заўсёды ласыя на цацкі, асабліва на гэткія, дзе можна пацiскаць гузічкі. Да рэшты экспанатаў ня дадзена самага галоўнага — цэнаў і вышыні заработкаў. Выстаўка, такім чынам, атрымалася ананімная. Каго на сьвеце можна задзівіць тым, што ў Савецкім Саюзе пячэцца хлеб ды вырабляюцца сыр, масла й каўбаса? Каму з Амэрыканцаў ня ведама, што у Савецкім Саюзе павінны быць пэрфумы, тэлевізары й аўтамашыны? Адусутнасьць цэнаў кідаецца бадай кажнаму ў вочы. Адсюль і пытаньне ў кнізе водгукаў: «Чаму-ж не падаць цэнаў на гэткія рэчы, як аўтамашыны, вопратка, тэлевізары ды інш! Што, сорамна прызнацца?»

Тое ананімнае, што й выстаўлена, прыхарошваецца лёзунгамі ды плякатамі пра ліквідацыю беспрацоўя й няпісьменнасьці ў Савецкім Саюзе, пра дармовую асьвету й мэдыцынскую абслугу. «Мастацтва належыць народу» — плякат засланяе сабой жорсткую цэнзуру й зялезны партыйны кантроль усяго жывога. Сярод дыяграмаў і надзьмутых статыстык абяцанае хрушчоўскае сямігодкі красуецца прапагандавы балён: «СССР — свабоднае задзіночаньне 15 роўных савецкіх сацыялістычных рэспублік».

Выстаўка апанаваная расейшчынай так-жа, як расейшчынай апанаванае й жыцьцё паняволеных падсавецкіх народаў. Рэспублікі намаляваныя на сьцяне, на выстаўцы іх — ні сьледу. Нічога не даведаешся й пра Беларусь. Усё, што тут можна знайсьці зь Беларусі — гэта трактар «Беларусь», фатаграфія старшыні калгасу «Расьсьвет» Кірылы Арлоўскага, плян Менску зь дзесяцьма здымкамі, кадр зь фільму «Чырвонае лісьце», Азгурава скульптура «Рабіндранат Тагор», двухтомнікі Глебкі, Броўкі, Танка й Куляшова ды дэфіцытны альбом «Савецкая Беларусь». Экспанаты гэтыя параськіданыя й губляцца ў моры расейшчыны, што галоўна й рэпрэзэнтуе тут савецкі культурны прагрэс.

Амэрыканцам ад выстаўкі галава не закружылася: за выняткам гэных цацак-электрастанцыяў і колькіх дзесяткаў станкоў ды сельска-гаспадарскіх машынаў, у звычайным унівэрсальным магазыне Нью-Ёрку ўгледзіш куды больш, чымся на выстаўцы, прычым непараўнальна лепшага гатунку й таньнейшага.

Як выстаўка толькі адкрылася, рэдакцыя аднае з найбольшых ньюёркаўскіх газэтаў «Дэйлі Ньюс» папрасіла трох лепшых інжынераў зь вялікае кампаніі «Джэнэрал Электрык» пайсьці разам з карэспандэнтам газэты на выстаўку. Пасьля дакладнага азнаямленьня з экспанатамі савецкае навукі амэрыканскія інжынеры заявілі, што на выстаўцы няма нічога, чаго-б Амэрыка ня мела. Затое яны знайшлі шмат рэчаў, што тут ужо па гадоў 10-15 выйшлі з ужытку. Калі амэрыканскія інжынеры пачалі дапытвацца ў праваднікоў выстаўкі, якія цэны выстаўленых тавараў і дзе іх можна купіць, яны атрымалі ветлівы адказ: «Гэта, бачыце, не **гандлёвая** выстаўка, а выстаўка **дасьледніцкіх дасягненьняў».**

У катэгорыю «дасьледніцкіх дасягненьняў» папала і ўсё іншае. Калі Амэрыканцы дагаворваліся на вымену выстаўкамі, яны былі за тое, каб наведвальнікі выставак маглі й купіць сабе сёе-тое: Амэрыканец савецкія вырабы, а савецкі грамадзянін (на амэрыканскай выстаўцы ў Маскве) амэрыканскія. Мала таго, Амэрыканцы дагаварваліся былі, каб нагул пасьля закрыцьця свае выстаўкі ў Маскве раздаць задарма свае экспанаты. Аднак, бальшавікі разумеюць культурную вымену, як вымену прапагандовую. Даваць-жа магчымасьць сваім грамадзянам купляць амэрыканскія прадукты, а Амэрыканцам прадаваць свой «шырпатрэб» — гэта траціць двойчы. Дзеля гэтага, на савецкай выстаўцы замест самаварнага чаю наведвальнікі п'юць кока-колю.

«Комсомольская правда» (20. 7. 59), зьмяшчаючы карэспандэнцыю свайго ньюёркаўскага дапішчыка, передае свайму чытачу словы хатняе гаспадыні Мэры Макбрайд: «Але, я ўпэўненая, што кажны савецкі чалавек карыстаецца тым, аб чым расказвае выстаўка». Можа Мэры й сказала гэтак. Зрэшты, хто можа праверыць, **што** Мэры Макбрайд сказала карэспандэнту «Камсамольскае праўды»? Затое можна праверыць штосьці іншае, больш аўтэнтычнае й праўдзівейшае за выказаньні амэрыканскае хатняе гаспадыні. А яно вось:

☆

цяжка купіць такую мэблю, як сэрвант, буфэт, стол, крэслы. Нельга таксама дастаць люстэркавага шкла» («Сов. Белоруссия», 19. 3. 59, б. 3).

☆

«Звычайны кухонны столік стаў у нас праблемай... Мы пабывалі ў усіх мэблевых магазынах Менску. І ўсюды нам давялося пачуць скаргі пакупнікоў і гандлёвых працаўнікоў на адсутнасьць у продажы самых простых рэчаў хатняга ўжытку» («Зьвязда», 22. 3. 59, б. 2).

☆

«Язершчынскі райвыканком Віцебскае вобласьці не праяўляе клопату аб задавальненьні бытавых патрэбаў работнікаў саўгасу «Маяк». На тэрыторыі пасёлку саўгасу няма студні... У пасёлку няма лазьні, дамы не радыяфікаваныя» («Сов. Бел.», 20. 3. 59, б. 3).

☆

«Калі хто думае, што ў Горадні можна бязь цяжкасьцяў купіць скрынку для пасылкі, той глыбока памыляецца. Ня толькі ў Горадні, але і ў цэлай вобласьці іх не дастанеш» («Сов. Бел.», 20. 3. 59, б. 3).

☆

«Як ні дзіўна, але на акраінах Менску нельга купіць ні газэты, ні часапісу» («Сов. Бел.», 5. 4. 59, б. 3).

☆

«Па тавары першае неабходнасьці калгасьнікам вёскі Удага Чэрыкаўскага раёну даводзіцца хадзіць за 3-10 кілямэтраў» («Зьвязда», 2. 4. 59, б. 2).

☆

«На будаўніцтве Бярозаўскае ДРЭС працуюць сотні людзей, грамадзкае харчаваньне арганізавана тут вельмі дрэнна. Увесь калектыў абслугоўвае толькі адна сталовая Пескаўскага сельпо, у якой налічваецца... 7 сталоў. Будаўнікі доўгі час прастойваюць у чарзе, каб атрымаць абед». Там-жа скаргі на благую якасьць ежы. («Зьвязда», 24. 4. 59, б. 2).

☆

«У магазынах Берасьця нельга купіць ні пёраў, ні аўтаручак, ні агульных сшыткоў» («Настаўніцкая Газэта», 28. 4. 59, б. 4).

☆

«Сшыткі, якія выпушчаныя камбінатам «Герой працы» ў першым квартале 1959 году, зусім няпрыгодныя для пісьма. Папера дрэнна адпрасаваная, чарніла на ёй расплываецца. Ужо ня раз гаварылася, што неабходна палепшыць якасьць паперы, але ўсё дарэмна» («Настаўніцкая Газэта», 28. 4. 59, б. 4).

☆

«Настала лета, чаму-ж у ніводным магазыне (Менску) не дастаць мужчынскае сарочкі з кароткім рукавом? Чаму ў продажы няма баваўняных белых мужчынскіх сарочак? Чаму порткі толькі суконныя, а дзе-ж зь лёгкага матар'ялу? Падобных 'чаму' штодня ўзьнікаюць дзясяткі» («Сов. Бел.», 23. 6. 59, б. 2).

☆

«Больш за ўсё не вязе дзецям 11-12 гадоў. Дастаць абутак патрэбнага ім памеру даволі складная справа» (гэта ў сталіцы Беларусі!) («Сов. Бел.», 23. 6. 59, б. 2).

☆

«У Менску гандаль чэрствым хлебам і булкамі стаўся асноўным злом... Каб паесьці смашнога менскага хлеба, трэба ехаць... у Маскву» («Сов. Бел.», 23. 6. 59, б. 2).

☆

Хоць Амэрыканцы й ня чыталі ні «Зьвязды», ні «Советской Белоруссии», усё-ж праваднікам выстаўкі даводзіцца горача ад задаваных ім пытаньняў. У першыя дні выстаўкі праваднікоў было больш, асабліва маладзенькіх (відаць, студэнты). Ад першага-ж дня выстаўка пeратварылася ў поле гарачага палемічнага бою. Пасьля, маладых праваднікоў паздымалі, бо гэныя, не налажыўшыся яшчэ гладка хлусіць, запіналіся й чырванелі, адказваючы на пытаньні (праўды-ж ня скажаш!).

Адным зь цікавых экспанатаў на выстаўцы сталіся праз колькі дзён і кніжкі водгукаў, куды наведвальнікі ўпісваюць свае заўвагі й пажаданьні. Выказваньні ў кнігах водгукаў, пэўна-ж, самыя розныя. Савецкія газэты падаюць сваім чытачом толькі прыхільныя, якіх у кнігах, параўнальна, ня шмат. Кнігі водгукаў сталіся пачытным матар'ялам. Гаспадары выстаўкі адразу-ж спахапіліся і пачалі выймаць запісаныя лісткі. Сёе-тое папала аднак, на балонкі амэрыканскае прэсы або проста расказваецца з вуснаў у вусны. Сярод іх былі й гэткія:

«СССР — рай, але для дыктатара».

«Колькі Немцаў памагала рабіць павыстаўляныя тут прылады?»

«А я думала, што гэта мой муж першы адкрыў радыё...» Подпіс: «Місіс Марконі».

«Быў на выстаўцы. Спадабалася. Хацеў-бы, каб гэтага было крыху ў Манголіі. — Молатаў».

Агульнае ўраджаньне Амэрыканцаў найлепш, бадай, выказала сп-ня Джан Мазюміка: «На маю думку, галоўная заслуга гэтае выстаўкі будзе ў тым, што яна пакажа Амэрыканцу, які ён шчасьлівы, што ён Амэрыканец.

**Я. Запруднік**

# Бальшавіцкі перасьлед Жыдоў у БССР

Адна з найбольшых ньюёркаўскіх газэтаў «Нью-Ёрк Гэралд Трыбюн» у нядзелю 26 ліпеня зьмясьціла абшырны артыкул пра перасьлед бальшавікамі Жыдоў, якіх па цэлым СССР налічваецца каля трох мільёнаў.

Газэта піша, што нядаўна былі атрыманыя весткі пра закрываньне ў Савецкім Саюзе сынагогаў і забарону малітоўных сходаў. Дыскрымінацыйная палітыка рэжыму ў дачыненьні да жыдоўскага жыхарства праводзіцца й на Беларусі. У Бабруйску, прыкладам, дзе, паводля «Гэралд Трыбюн», на 100 тысяч жыхароў налічваецца 60 тысяч Жыдоў, нядаўна былі забароненыя восем прыватных малітоўных сходаў. Удзельнікам сходаў сказалі, што, калі яны йзноў зьбяруцца, ім пагражацьме арышт. Тое самае ў Віцебску. 16 травеня сёлета там было закрыта 12 малітоўных збораk, а ўдзельнікам была выказаная пагроза 10-гадовага зьняволеньня пры паўторнай спробе зьбірацца на малітвы. «Вашая рэлігія варожая савецкаму рэжыму», — сказалі ім.

«Гэралд Трыбюн» піша, што ў Менску й Смаленску Жыды ня могуць дастаць нядаўна выданага ў Савецкім Саюзе пажыдоўску зборніка апавяданьняў жыдоўскага пісьменьніка Шолама Алейхэма, хоць за межамі гэтае выданьне шырака распаўсюджвалася. Замест гэтага ім прапануецца кніга Іванова й Шэйніса «Ізраэль і ягоная палітыка», што асуджае Ізраэль. У Баранавічах, паводля ньюёркаўскае газэты, быў зруйнаваны помнік, пастаўлены ў памяць 4-х тысячаў Жыдоў, выгубленых нацыстымі. На месцы помніка паставілі публічны адходак. У Менску паздымалі жыдоўскія надпісы з помніка, пастаўленага на месцы колішняга гета.

# АБВЕСТКА

Ад 2-га да 8-га лістапада 1959 году (ад 1—10,30 гадз. штодзень) будзе адбывацца ў Нью Ёрку 36-ая Гадавая Міжнародная Жаночая Выстаўка.

Сёлета першы раз Беларускае Жаноцкае Таварыства прыймае ўдзел у выстаўцы.

У сувязі з мастацкім афармленьнем нашага стэнду і аплатаю за месца нашыя арганізацыі ўзялі на сябе вялікія матарыяльныя забавязаньні. Каб дапамагчы нам Беларускам годна зарэпрэзэнтаваць беларускае народнае мастацтва, мы зьвяртаемся да кажнага сьведамага Беларуса і Беларускі падтрымаць нашу акцыю наступным спосабам:

1) Ахвяраваць нешта з мастацкіх вырабаў, як прыкладам вышытую рэч, ручнік, ці сарвэтку, рэчы з дрэва, аздобленыя саломкай лялькі ў нацыянальнай вопратцы і г. д.

2) Купляць білеты на выстаўку у Жаноцкім Таварыстве (у Сп-ні Веры Бартуль) і дапамагчы у распродажы білетаў кажнаму на сваіх месцах працы.

3) Адведаць выстаўку.

Ад колькасьці прададзеных білетаў залежыць бяздэфіцытная ўдача нашае першае беларускае выстаўкі на міжнацыянальным груньце.

Білеты каштуюць 75 цэнтаў адзін (намінальная цана 95 ц.).

**Галоўная Управа Жаноцкага Таварыства і Аддзел Нью Ёрк Жаноцкага Таварыства**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

іх у сярэдзіне «Вянка» давялося нам перадумаць і арганізаваць як найдамэтней для нашага выданьня.

У Інбелкультаўскім выданьні ўсе арыгінальныя Багдановічавы вершы, за выняткам вершаў «Вянка», былі арганізаваныя ў вадзін аддзел, пастаўлены перад «Вянком» як першы аддзел усяго збору твораў. Ужо ў першай найпаважнейшай рэцэнзіі на Інбелкультаўскае выданьне праф. А. Барычэўскага (у «Працах клясы філялёгіі» Інбелкульту, том І, 1928 г., б. 382) было добра зазначана пра грубое парушэньне храналягічнага прынцыпу пры гэткім укладзе, паколькі перад «Вянком», што абыймае творы 1909—1912 г. г., тут апыняюцца ня толькі творы папярэдняга часу (г. зн. 1908 г.), што зусім на месцы, і ня толькі творы таго-ж часу (1909—1912), у «Вянок» ня ўлучаныя, але й творы пасьлейшага часу, 1913—1917 г. г., створаныя ўжо па выхадзе «Вянка». Укладальнікі апошняга менскага выданьня Акадэміі Навук БССР, як відаць з усяго іхнага выданьня, з рэцэнзіяй праф. Барычэўскага незнаёмыя, вычуўшы, магчыма, нейкую неадпаведнасьць гэткага ўкладу ды, можа, стараючыся папрaвіць справу, перавярнулі ўсё наадварот, паставіўшы ўсе арыгінальныя вершы, што не ўвайшлі ў «Вянок», пасьля яго (як «Вершы розных гадоў»), чым яшчэ грубей парушыўся храналягічны прынцып, паколькі па «Вянку» апыніліся ня толькі вершы, пазьнейшыя за яго, і ня толькі аднaчасныя зь ім (з чым яшчэ мо й льга было-б гадзіцца), але й вершы, ранейшыя за яго, сама раньнія паэтавы творы...

Прызнаючы поўную рацыю зазначэньню праф. Барычэўскага, мы й кіраваліся ягоным сэнсам пры сваім укладзе. Найдамэтнейшым за ўсё пры адзначанай вышэй своеасаблівасьці нашага выданьня, як і «падручнага» і, наколькі мага, пры гэтым, акадэмічнага, выглядала паставіць у фокус усяго «Вянок» (у вадпаведнасьці з гэтым і азагаловіўшы ўсё выданьне) ды ў дачыненьні да яго ўкладаць (дый загаловіць) іншыя аддзелы на аснове храналягічнага прынцыпу, што ў гэтым выпадку, як гэта часта бывае, аказваецца й найбольш лягічным прынцыпам. Гэтак першым з парадку аддзелам вершаў у нас пайшлі сама раньнія (1908 году) вершы паэты, азагалоўленыя «Перад Вянком», за імі — аднaчасныя, але «няўплеценыя» ў «Вянок» (відаць, як менш дасьпелыя ўвачч аўтара, і таму ніжэйшыя, «папераднейшыя», калі так сказаць) вершы пад загалоўкам «Пад Вянком», далей — сам «Вянок» і нарэшце — вершы, створаныя пасьля «Вянка», г. зн. у 1913—1917 г. г., пад загалоўкам «Па Вянку».

Першы аддзел, абыймаючы ўсяго 5 (дакладней — 6) нумароў вершаў, што з максымальнай пэўнасьцяй могуць быць аднесеныя да 1908 г. ды з такой-жа пэўнасьцяй укладаюцца ў храналягічную паступовасьць, у якой яны паданыя намі, — ня выклікае, здаецца, патрэбы большых паясьненьняў што да свае нутраное структуры. Адылі, наступны аддзел вершаў аднaчасных, ды «няўплеценых» у «Вянок», што спачатна, пры друку ў «Бацькаўшчыне», укладаліся намі таксама ў як мага храналягічнай паступовасьці, нарэшце здалося найдамэтнейшым для своеасаблівасьці выданьня ўкласьці на тых-жа асновах ды паводля тых-жа асноўных рубрыкаў, што былі ўстаноўленыя самым аўтарам для «Вянка», якім абнятыя вершы таго-ж часу напісаньня. Дык у канчальным выніку з гэтага аддзелу выйшла свайго роду «кніга нявыбраных вершаў» як подступ-падыход да самое цэнтральнае «кнігі выбраных вершаў» — «Вянка».

Як ужо сказана, уклад вершаў у сярэдзіне самога «Вянка», на аснове якога зроблены й уклад у папярэднім яму, кагадзе агледжаным аддзеле «Пад Вянком», таксама давялося перадумаць і пераарганізаваць. Рэч у тым, што ўклад вершаў у «Вянку» ў тым выглядзе, у якім ён выйшаў з друку, ня зусім адпавядаў волі самога аўтара й ня мог зусім задавальняць яго. Як ведама, у гэты «Вянок» не ўвайшлі прызначаныя для яго й укладзеныя самым аўтарам два аддзелы — «Каханьне й сьмерць» (поўнасьцяй) ды «З чужое нівы» (у пераважнай бальшыні вершаў ды як асобны аддзел пад такім загалоўкам). Выклікалася гэта фінансавымі абставінамі, што вымагалі скарачэньня абсягу кніжкі; адылі, падвядзеньне пад гэтае скарачэньне вызначалася меркаваньнямі свайго роду «нутраное цэнзуры» выдаўцоў, што кіраваліся кансэрватыўнымі густамі, паводля якіх шмат што ў Багдановічавай паэзіі выглядала на «дэкадэнтшчыну», пад закідам якое паэту, як ведама, наагул доўга ня пушчалі ў літаратуру. Дзеля гэтага аддзел «Каханьне й сьмерць» так і не пабачыў друку ні ў «Вянку» ні наагул, аж да Інбелкультаўскага выданьня 1927 г. Што-ж да аддзелу «З чужое нівы» — аддзелу перакладаў — дык «нутраная цэнзура» заблякавала тут асноўную масу яго — пераклады з патэнтаванага «дэкадэнта» Вэрлена ды некаторыя іншыя, прапусьціўшы адно пераклад з Авіда й з украінскіх паэтаў (Крымскага, Чарняўскага, Олэся) ды далучыўшы іх проста да папярэдняга аддзелу «Старая спадчына», не задумваючыся над сэнсам гэтага загалоўку, бо калі Авід яшчэ пад яго й падыходзіў, дык вершы украінскіх паэтаў, усіх сучасьнікаў самога Багдановіча, пад шапку «старое спадчыны» аніяк не надаваліся.

Апрача гэтых двух адделаў, долю іхную мала не падзяліў і аддел «Вольныя думы» дзеля свае ня так «дэкадэнтшчыны», як дзеля, кажучы пазьнейшым спэцыфічным тэрмінам, «упадніцтва настрояў», перамежванага часам калючай палемічнасьцяй. Як ведама нам зь пераказаў, аддзел гэты быў уратаваны літаральна ў вапошні мамэнт і бадай «кантрабандна», страціўшы сваё месца, вызначанае самым аўтарам (па аддзеле «З чужое нівы», у канцы першае палавіны зборніка — «Малюнкі й сьпевы») ды апыніўшыся на новым, менш кідкім і больш, казаў той, «нэўтралізуючым» ягоныя «атруты й адатруты» (па блізкім яму загалоўкам у аддзеле «Думы» й перад найбольш «акадэмічным» аддзелам «Старая спадчына»).

Аддзел «Каханьне й сьмерць» быў адноўлены ў сваім абсягу й месцы ўжо Інбелкультаўскім выданьнем і адтады ўвайшоў, ці бо вярнуўся ў «Вянок», аддзелу-ж «З чужое нівы» ані Літаратурная Камісія Інбелкульту, ані Інстытут Літаратуры Акадэміі Навук БССР аднавіць не падняліся. Гэта адважыліся зрабіць мы з павагі да волі паэты, які гатоў быў ахвяраваць нат арыгінальны вершамі, абы былі ў зборніку пераклады, асабліва якраз з Вэрлена (як гэта відаць зь ягоных лістоў, нядаўна апублікаваных у менскім «Полымі», № 3 за 1958 г., б. 178) ды з увагі на нясьціслую акадэмічнасьць выданьня, што дае нам большую свабоду рук, чымся пачувалі яе ўкладальнікі выданьняў акадэмічных.

(Далей будзе)

### ДА ЎВАГІ НАШЫХ ПРАДСТАЎНІКОЎ і ЎСЯГО БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗТВА!

Выдавецтва «Бацькаўшчыны» зьніжае на 25% цану ўсіх сваіх выданьняў за выняткам «Спадчыны» Я. Купалы ў цьвёрдай вокладцы, «Беларускіх казак» у цьвёрдай і мяккай вокладцы й «Выбраных твораў» Р. Крушыны. У выніку цана ўсіх выданьняў наступная:

**Янка Купала**
**СПАДЧЫНА**

— Выбар паэзіі зь вялікім крытычным артыкулам **Ст. Станкевіча.** Балонаў 564. **Цана 5.25, 9, або 11 амэр. даляраў** (залежна ад вокладкі й паперы).

**Янка Купала**
**ТУТЭЙШЫЯ**

— П'еса ў чатырох дзеях з крытычным артыкулам **Р. Склюта.** Балонаў 83. **Цана 1 амэр. даляр.**

**Янка Купала**
**РАСЬКІДАНАЕ ГНЯЗДО**

— Драма ў пяцёх актах з крытычным артыкулам **Р. Склюта.** Балонаў 58+XV. **Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Якуб Колас**
**НОВАЯ ЗЯМЛЯ**

— Паэма зь вялікім крытычным артыкулам **Р. Склюта.** Балонаў 246+XXXII. **Цана 2.25 амэр. дал.**

**Якуб Колас**
**СЫМОН МУЗЫКА**

— Паэма з крытычным артыкулам **Р. Склюта і А. Бабарэкі.** Балонаў 238. **Цана 2.25 амэр. даляраў.**

**Якуб Колас**
**У ПАЛЕСКАЙ ГЛУШЫ**

— Повесьць. **Цана 1.50 амэр. дал.**

**Андрэй Мрый,**
**ЗАПІСКІ САМСОНА САМАСУЯ**

— Сатырычная аповесьць з крытычным артыкулам **Р. Склюта.** Балонаў 88. **Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Лукаш Калюга**
**НЯДОЛЯ ЗАБЛОЦКІХ**

— Аповесьць з крытычным артыкулам **Р. Склюта. Цана 1.10 амэр. даляраў.**

**Власт (Вацлаў Ластоўскі)**
**ТВОРЫ**

— Апавяданьні. Балонаў 112. **Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Юрка Віцьбіч**
**ПЛЫВЕ З-ПАД СЬВЯТОЕ ГАРЫ НЁМАН**

— Мастацкія нарысы. **Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Рыгор Крушына**
**ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ**

— Вершы. **Цана 2 амэр. даляры.**

**ЛЯ ЧУЖЫХ БЕРАГОЎ**

— Альманах твораў эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў з уступным артыкулам **Ст. Станкевіча.** Балонаў 238. **Цана 2. 25 амэр. даляраў.**

**БЕЛАРУСКІЯ КАЗКІ**

Зборнік народных казак і літаратурных твораў з казачнымі матывамі. Балонаў 215. **Цана 3 або 4 даляры** (залежна ад вокладкі).

**Заўвага:** У эўрапэйскіх краінах, пайменна ў Англіі, Францыі, Бэльгіі, Нямеччыне, Італіі, Гішпаніі, а таксама ў Аргэнтыне, Бразыліі й Аўстраліі выданьні каштуюць на 20% таней вышэй пададзенае расцэнкі

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

### УВАГА, НАШЫЯ ПАДПІШЧЫКІ Ў АМЭРЫЦЫ!

Гэтым даводзіцца да ведама нашых паважаных падпішчыкаў, якія атрымоўваюць «Бацькаўшчыну» пасярэдня ці беспасярэдня з Адміністрацыі, што належнасьць за газэту трэба ўрэгулёўваць з нашым прадстаўніком на Амэрыку сп. Браніславам Даніловічам.

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N. J.

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны»**

*Зь беларускага жыцьця*

### XII ЗЬЕЗД АБРі

19-га ліпеня г. г. у памешканьні Ц.Ф.Т.Ц. адбыўся 12-ы Зьезд Аб'яднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі (А.Б.Р.Ф.).

Пасьля выбару Прэзыдыюму Зьезду, у які ўвайшлі: а. Маскалік (старшыня), сп. Данільчык (заступнік старшыні) і сп. Кавалеўскі (сакратар), была праслухана справаздача старшыні адыходзячай Галоўнай Управы АБФР сп. Наўмовіча.

У сваёй справаздачы сп. Наўмовіч падкрэсьліў, што мінулы год працы Галоўнае Ўправы АБРФ, ня гледзячы на шматлікія цяжкасьці ды няспрыяльныя ўмовы, быў цалкам задавальняючым. За справаздачны пэрыяд было праведзена 8 зборкаў АБРФ, галоўным чынам у сувязі з адзначэньнем нашых нацыянальных сьвятаў ды найбольш патрыятычнымі падзеямі на фоне жыцьця нашае эміграцыі ў Францыі. Апрача гэтага, прадстаўнікі Галоўнай Управы АБРФ прыймалі актыўны ўдзел у працы іншанацыянальных арганізацыяў, таксама як і ў працы міжнароднай сындыкальнай арганізацыі (F.I.T.C.R.E.), годна й належна рэпрэзантуючы Беларусоў ды беларускія незалежніцкія ідэі навонкі. Падчас нашых нацыянальных сьвятаў былі праведзеныя паміж прысутных адмысловыя грашовыя зборкі, што значна папоўніла касу АБРФ.

Аддзел у Крэзо, што зьяўляецца актыўнай адзінкай АБРФ, правёў за мінулы год значную працу пры цеснай сувязі з Галоўнай Управай АБРФ.

Пасьля заслуханьня справаздачы Рэвізійнае Камісіі, Зьезд прызнаў адыходзячай Управе АБРФ абсолюторыюм з падзякай ды выбраў новую Управу ў наступным складзе: старшыня АБРФ — сп. М. Наўмовіч, заступнік старшыні — сп. А. Кавалеўскі, сакратар і скарбнік — сп. В. Міцкевіч. У Рэвізійную Камісію былі выбраныя: а. Маскалік — старшыня, сп. Лысуха — заступнік старшыні.

Зьезд прыняў некалькі прапановаў, што тычыцца нутраных справаў з жыцьця Беларусаў у Францыі.

XII Зьезд АБРФ прайшоў у цёплай сяброўскай атмасфэры й асабліва падчыркнуў вялікае значаньне дзейнасьці гэтае беларускае арганізацыі на тэрыторыі Францыі.

**А. К.**

# Уладзімер Кабушка

Сьв. памяці Уладзімер Кабушка нарадзіўся 13-га сьнежня 1910 году ў вёсцы Малахоўцы Слонімскага павету.

Жыцьцё ягонае ня было багатае ўдачамі ці радасьцямі. Яшчэ зусім малым хлапчуком ён, дзеля ваенных падзеяў Першае Сусьветнае вайны, мусіў пакінуць з бацькамі родную хату ды ўцякаць на ўсход. Там на чужыне памерла ягоная маці. Пасьля павароту зь сям'ёю на бацькаўшчыну малы Ўледзімер, як сірата, гадаваўся пры манастыры, дзе й вучыўся ў пачатковай школе, а пасьлей — дапамагаў у працы бацьку, ды рыхтаваўся ў вольныя ад працы часіны да працяваньня свае асьветы.

У 1926 годзе Ўладзімеру ўдалося дастацца ў Віленскую Беларускую Гімназію. Як вучань гімназіі, падчас прыездаў да хаты на вакацыі, ён пільна працаваў з моладзяй і старэйшымі свае ваколіцы, усьведамляў іх нацыянальна, дапамагаў арганізаваць гурткі беларускае мастацкае самадзейнасьці, распаўсюджваў беларускія газэты ды кніжкі.

У 1928 годзе разам зь іншымі вучнямі Віл. Бел. Гімназіі Уладзімер Кабушка быў арыштаваны й засуджаны на 8 год цяжкага зьняволеньня. Пасьля звальненьня з Грудзёнзкага вастрогу па амнэстыі ён вярнуўся на бацькаўшчыну, але жыць супакойна ня мог дзеля перасьледаў польскае паліцыі. Гэта змусіла яго да пераходу мяжы у Менск, дзе, адылі, ён апынуўся неўзабаве ў той-жа вязьніцы, куды трапілі сотні даверлівых энтузіястаў з Заходняе Беларусі, якія спадзяваліся знайсьці ў БССР «Беларускі Дом».

Толькі ў часе Другое Сусьветнае вайны Уладзімеру Кабушку ўдалася пазбыцца астрогаў ды перасьледаў пераменных «заходніх» ды «ўсходніх» апякуноў Беларусі. І ён адразу-ж узноў улучыўся ў беларускую нацыянальна-грамадзкую працу. Далейшы лёс ягоны быў лёсам усяе сяньняшняе беларускае эміграцыі: нямецкія лягеры, нярадаснае жыцьцё ДП, а нарэшце — пераезд у Задзіночаныя Штаты Амэрыкі. Тут Уладзімер Кабушка будучы сябрам Рады БНР, сябрам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША ды іншых беларускіх арганізацыяў, праз усе апошнія гады быў адданым грамадзкім працаўніком і арганізатарам, ахвярным настаўнікам і заўсёдным дараднікам ды апякуном беларускае моладзі.

Нечаканая сьмерць спыніла працавітае, адданае нацыянальнай справе жыцьцё Уладзімера Кабушкі перадчасна, зусім нечакана для асірочанае сям'і й усіх сяброў ды супрацоўнікаў. Хай-жа будзе яму лёгкаю вольная амэрыканская зямля!

*

Паховіны сьв. памяці Ўладзімера Кабушкі адбыліся ў сьботу 25-га ліпеня. А гадзіне 9-ай раніцы труна зь Нябожчыкам была перавезеная ў Грэцкую Праваслаўную Царкву ў Гайлэнд Парку, прадмесьці Нью-Брансьвіку. Тут яго Высокапрэасьвяшчэнтва Архіяпіскап БАПЦарквы Васіль у саслужэньні Мітрафорнага Пратаярэя а. Сьцяпана Войтэнкі адслужылі Літургію й Чын Адпяваньня. У часе жалобнае Багаслужбы сьпяваў хор беларускае царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Нью-Брансьвіку. Кіраваў хорам сп. М. Тулейка зь Нью-Ёрку.

Пасьля Адпяваньня даўгі жалобны паезд (каля 30-х самаходаў) накіраваўся на нядаўна высьвячаныя беларускія магілкі імя Жыровіцкае Божае Маці. Тут над сьвежа выкапанай, першай на могілках, магілай была адпраўленая малая Ліція. З разьвітальным словам над труной выступалі Уладыка Васіль, першы Заступнік Старшыні Рады БНР сп. А. Стагановіч, старшыня Галоўнае Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША сп. К. Мярляк ды старшыня Царкоўнае Рады Нью-Брансьвіцкага Прыходу БАПЦарквы сп. П. Кажура.

Труна зь Нябошчыкам была прыкрытая нацыянальным бел-чырвона-белым сьцягам, які быў перад апушчэньнем дамавіны ў зямлю перададзены сям'і нябожчыка.

Паховіны скончыліся адсьпяваньнем жалобнага маршу «Сьпі пад курганам герояў».

Пасьля паховінаў уся вялікая грамада сяброў і знаёмых Нябожчыка, што прыйшлі й прыехалі правесьці яго ў апошнюю дарогу, былі запрошаныя на жалобны абед, які адбыўся ў залі Шака ў Саўт-Рывэры.

У паховінах сьв. памяці Уладзімера Кабушкі ўзялі ўдзел вельмі шмат Беларусаў з Саўт Рывэру, Нью-Брансьвіку, Нью-Ёрку й іншых беларускіх асяродкаў.

# Памёр чалавек

На беларускім могільніку ў Нью Брансьвіку насыпана першая сьвежая магілка. Кон хацеў, каб першым супачыў там Уладзімер Кабушка, яшчэ малады жыцьцярадасны Чалавек.

Зусім нядаўна, якраз адзін месяц таму, 21-га чэрвеня было ўрачыстае высьвячэньне Беларускага могільніка. Гарачы летні дзень, шмат людзей: маладых, старэйшых і дзяцей; урачыстая Божая Служба адпраўленая Уладыкай Васілём і айцамі Сьцяпанам і Хведарам. На пустым, ачышчаным, залітым сонцам узгорку перад вялікім дзераўляным Крыжам маліліся людзі. І было зусім радасна й сьветла на сэрцы. Што-ж, гэта вельмі добра, што Беларусы прыдбалі сабе такі вялікі і прыгожы кавалак зямлі — хай сабе будзе і свой могільнік — толькі, каб карыстаць зь яго давялося ня хутка ... як найпазьней.

Ажно здарылася інакша. Зусім неспадзявана памёр Уладзімер Кабушка. Адным няштодзённым змагаром за нацыянальную беларускую справу стала менш.

Больш аб Памерлым скажуць напэўна ягоныя сябры, скажуць не аб гладкім, роўным, а выбоістым жыцьцёвым шляху, аб цярпеньнях і зьдзеках ад розных гаспадароў нашае радзімы; скажуць напэўна й аб першым балючым дазнаньні юнака зраджанага сваім настаўнікам разам зь іншымі такімі-ж юнакамі-дзецьмі. Магчыма скажуць і аб вялікім сэрцы Чалавека.

Я хацела-б толькі на сьвежую магілку пакласьці пару польных красак — малы ўспамін, як доказ мае ўдзячнасьці Памершаму.

Не адзін з нас, выгнанцаў ішоў камяністым жыцьцёвым шляхам праз часы вайны, бежанства, лягераў; не адзін з нас перажыў пэрыяды пэсымізму, навет роспачы. Год 1949—50 быў асабліва цяжкі й безнадзейны ў маім жыцьці. Шмат Беларусаў ужо выэміґравала за акіян, іншыя рыхтаваліся да эміграцыі, зусім нешматлікія заставаліся ў Нямеччыне. У тым ліку й мая сям'я. Мне тады здавалася, што навет людзі неяк зьмяніліся, кажны эгаістычна дбаў вылучна аб сваім уласным лёсе й я адчувала сябе не як паміж сваіх суродзічаў, але як паміж чужых. Пэрспэктывы на будучыню былі вельмі сумныя: Напоўгалоднае йснаваньне на ўтрыманьні нямецкай сацыяльнай апекі.

І вось у час такое псыхічнае дэпрэсыі давялося мне сустрэцца на Вялікдзень 1950 г. з Спадарствам Кабушкамі. Памятаю, я навет і не скардзілася, але-ж і так мяне яны добра разумелі.

Ня трэба паддавацца пэсымізму, спадарыня — казаў Спадар Кабушка, — вось прыедзьце да нас у Бад Айблінг, мы абое працуем, можа-б і вам удалося там уладзіцца на працу, прыедзьце абавязкова!

Прыпадак хацеў, каб я неўзабаве наведала Спадарства Кабушкаў. Прыемна прайходзіў час у мілай сямейце, але я заўважыла, што Спадар Кабушка глянуў на гадзіньнік і раптам запрапанаваў мне прайсьціся па пасёлку (там месьціліся перад гэтым школы для пілётаў і афіцэрскія казармы). Пасёлак называўся Чыльдрэн Вілідж, жыло там больш за 500 дзяцей сіратаў, якія загубілі бацькоў падчас вайны, былі гэта дзеці пераважна славянскіх народаў.

Спадар Кабушка паказаў мне школу й запрапанаваў зайсьці. Я неяк чулася нейкава й не хацела, але ён угаварыў, што толькі пакажа мне будынак. На калідоры мы спаткалі нейкага настаўніка (быў гэта кіраўнік школы). Спадар Кабушка падыйшоў да яго і загаварыў.

— Вось бяда — скардзіўся настаўнік — дзеці такія непаслухмяныя, што адна настаўніца кінула лекцыю й наагул працу ды пайшла, дык я ня ведаю што й рабіць, прыходзіцца неяк заступаць самому.

Тут Спадар Кабушка пацягнуў мяне за рукаў і прадставіў як настаўніцу, якая любіць дзяцей навет непаслухмяных.

Кіраўнік школы ухапіў мяне за руку і ня ўсьпела я прамовіць слова, як апынулася ў клясе. — Вось наша новая настаўніца — сказаў ён і пакінуў мяне зь дзецьмі.

Такім чынам я атрымала працу ў школе, зусім памінаючы нявымоўна цяжкі для мяне момант просьбы й шуканьня працы. Мая сям'я пераехала ў Бад Айблінг і нашае становішча пачало зьмяняцца на лепшае й больш сталае. Калі мне пасьля 8 гадоў давялося спаткацца із спадаром Кабушкам, мне адразу жыва сталі ў памяці тыя часы й ягоная выцягнутая сяброўская рука, якая саматугам выцягнула нас зь нейкае жудаснае дрыгвы.

Вялікае сэрца меў Уладзімер Кабушка, месьцілася ў ім шмат любасьці да роднае старонкі-Беларусі, да свайго народу, да беларускае прыроды, народнага мастацтва, да ўсіх людзей наагул, найбольш чулае каханьне да свае сям'і.

Бел-чырвона-белы сьцяг на труне Ягонай сымбалізаваў Ягоны патрыятызм і адданасьць нацыянальнай справе.

Дарагі Сябра Валодзя, спачывай спакойна, хоць у чужой, але прыязнай зямлі, не забудуць Цябе сябры, бо Ты быў Чалавекам.

**Зінаіда Станкевіч**





**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

**з жалем паведамляюць аб перадчаснай сьмерці сябры Рады БНР**

**сьв. памяці**

**УЛАДЗІМЕРА КАБУШКІ**

**які памёр 21-га ліпеня 1959 году ў Нью-Брансьвіку ў ЗША на 49-ым годзе жыцця, і выказвае шчырае спачуваньне асірочанай сям'і — жонцы й дачушкам.**

**Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР**



**НАЙВЯЛІКШЫМ ТВАІМ ПРЫЯЦЕЛЯМ НА ЧУЖЫНЕ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ГАЗЭТА «БАЦЬКАЎШЧЫНА». ДЫК ПАДТРЫМАЙ ЯЕ, ЧЫМ МОЖАШ!**

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).





**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**